© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE ¢ 50

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431, Tel.: AX 1-8038

Год XX. № 154 | Нью Ёрк | February — Люты 1970 | New York | Vol. XX. № 154

**УРАЧЫСТАЕ СЬВЯТКАВАНЬНЕ 52-IX УГОДКАЎ АБВЕШЧАНЬНЯ ДЗЯРЖАЎНАЙ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ**

**БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ АКТАМ 25 САКАВІКА 1918**

**АДБУДЗЕЦЦА Ў НЬЮ ЁРКУ Ў НЯДЗЕЛЮ 22 САКАВІКА 1970**

У ПРАГРАМЕ

1. **10-ая гадз. нараніцы: Урачыстая Божая Служба** ў Катадральным Саборы БАПЦ сьв. Кірылы Тураўскага (401 Атлянтык эвэню ў Брукліне).
2. **2:00 гадз. папаўдні: Урачыстая Акадэмія,** у часе якой будуць прамаўляць кангрэсмэны й прадстаўнікі іншанацыянальных і беларускіх арганізацыяў, а таксама будзе багатая мастацкая праграма.

АКАДЭМІЯ АДБУДЗЕЦЦА Ў ЗАЛІ
BILTMORE HOTEL (Music Room)
Madison Avenue & 43rd Street, New York, N. Y. 10017

# РЭГАБІЛІТАЦЫЯ СТАЛІНА Й СТАЛІНІЗМУ

Асуджэньне Сталіна й сталінізму на XX і XXII зьездах Камуністычнае партыі Савецкага Саюзу было выклікане канечнасьцяй ратаваць моцна захістаны пасьля сьмерці дыктатара аўтарытэт партыі й зваліць віну за ўсе антынародныя партыйныя злачынствы на аднаго памерлага ўжо Сталіна.

Што асуджэньне Сталіна й сталінізму было адно тактычным ходам, а ня шчырым жаданьнем партыйных верхаводаў зьмяніць прынцыпова партыйную лінію, сьветчыў перш-наперш і вельмі-ж несамавіты характар дэсталінізацыі. Калі, прыкладам, у Заходняй Нямеччыне самі Немцы зьвінавацілі й асудзілі ня толькі Гітлера, але й выканаўцаў ягонае палітыкі, правялі г. зв. дэнацыфікацыю, у выніку якой былі кінутыя ў турмы й адсунутыя ад палітычнага жыцьця тысячы ягоных суудзельнікаў, дык у Савецкім Саюзе вінаватым аказаўся адзін толькі Сталін. Ягоным аднадумцам і найбліжэйшым супрацоўнікам ня толькі ня спаў волас з галавы, але ўсе яны засталіся й далей пры ўладзе.

Савецкае грамадзтва не магло не заўважыць гэтага парадоксу, і таму ўся дэсталінізацыйная камэдыя не магла ня выклікаць адваротнае рэакцыі: дэсталінізацыя яшчэ больш абнізіла аўтарытэт партыі й канчаткова зьнішчыла давер да яе.

Тым ня менш, дэсталінізацыя мела й свае пазытыўныя бакі, магчыма нат, не прадбачаныя самымі дэсталінізатарамі. Яна дала магчымасьць савецкаму грамадзтву пачаць крытычна думаць, духова вызваліцца ад закасьцянелых партыйных догмаў ды цьвяроза глянуць на савецкую рэчаіснасьць. А пры супастаўленьні рэальнай рэчаіснасьці з камуністычнай дактрынай выявілася ўся няжыцьцёвасьць камуністычнай тэорыі, а канчатковая пабудова камунізму, як стварэньне запраўднага раю на зямлі, пачала ўспрыймацца, як фантастычная утопія.

Увесь гэты працэс, які можна назваць цэлай рэвалюцыяй думаньня й перакананьня савецкага грамадзтва, моцна запалохаў партыйныя вярхі. Партыя пабачыла й пераканалася, што ўсё астрыё антысталінізму ськівавалася супраць яе самой. Партыя пачала губляць ужо ня толькі давер, а й кантроль над народамі Савецкага Саюзу. А найбольш небясьпечным сталася для партыі тое, што сярод нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу шыбка пачало ажываць глыбокае пачуцьцё нацыянальнага патрыятызму, а ў сувязі зь ім — і імкненьне да шырэйшага выяўленьня свае нацыянальнае існасьці.

У сувязі з гэтым напрыканцы 1965 — напачатку 1966 году ў цэлым Савецкім Саюзе пачаў зазначацца й штораз больш завайстрацца новы партыйны курс з мэтаю перасячы ў корані вызвольныя імкненьні падсавецкіх народаў і падпарадкаваць усё іхнае духовае жыцьцё партыйным дырэктывам. Дзеля таго, што ўсе непажаданыя для партыі зьявы выводзіліся з антысталінізму, партыя ня мела іншага выхаду, як хапіцца за рэгабілітаваньне Сталіна й сталінізму. Крывавыя сталінскія чысткі й іншыя злачынствы партыя пачала інтэрпрэтаваць, як гістарычную канечнасьць, абумоўленую тагачаснай нутранай і вонкавай палітычнай сытуацыяй. Партыйная прапаганда пачала пераконваць, што злачынствы Сталіна — гэта не злачынствы, а гістарычная канечнасьць.

Найбольш чулым барометрам палітычных настрояў і зьменаў у таталітарнай савецкай сыстэме зьяўляецца мастацкая літаратура, часткава іншыя галіны мастацтва. Гэтых настрояў бадай што нельга заўважыць беспасярэдня ў самым палітычным жыцьці, бо палітыка ў Савецкім Саюзе — вылучны манаполь партыі. Вось чаму вельмі часта даводзіцца аналізаваць савецкае палітычнае жыцьцё ды рабіць далёка йдучыя высновы на аснове мастацкае літаратуры.

Гэтак і ў дадзеным выпадку. Уся партыйная эквілібрыстыка ў дачыненьні да сталінізму асабліва зырка выявілася ў сфэры мастацкае літаратуры. Адным з прыкладаў гэтае эквілібрыстыкі несамавітая гісторыя із савецкім пісьменьнікам Аляксандрам Салжаніцынам. Калі ягоная аповесьць „Адзін дзень Івана Дзянісавіча", у якой зырка раскрытыя злачынствы сталіншчыны, у самым гарце дэсталінізацыі — у 1962 годзе — была надрукаваная навет з афіцыйнай апрабатай ЦК КПСС, дык наступныя ягоныя творы, ані не вайстрэйшыя ў васуджэньні сталіншчыны, ужо ня толькі ня былі надрукаваныя ў Савецкім Саюзе (затое надрукаваныя яны на Захадзе), але сталіся прычынаю войстрае партыйнае нагонкі й навет выключэньня іхнага аўтара із Саюзу савецкіх пісьменьнікаў ды, як інфармавала амэрыканская прэса, узяцьцем яго пад дамашні арышт у Маскве.

Асабліва зырка зазначылася партыйная тэндэнцыя рэгабілітаваньня Сталіна й сталінізму ў беларускай літаратуры. Характэрнай агульнай зьявай гэтае літаратуры другой палавіны 60-ых гадоў сталася аслабленьне, ато й спыненьне шырокага паказу й асуджэньня ў ёй канкрэтных зьяваў сталінскіх пагромаў 30-ых гадоў, што гэтак шырака было зазначылася ў творах беларускае літаратуры першае палавіны 60-ых гадоў. Ня выпадкова ў „Збор твораў у двух тамох" беларускага пісьменьніка Рамана Сабаленкі, што выйшаў у 1968 годзе, ня трапіла ягоная аповесьць 1964 году „Незамужняя ўдава", дарэчы адна зь лепшых гэтага пісьменьніка, у якой паказ жахаў сталінскага тэрору дасягнуў быў найбольш трагічнага адэнсаваньня.

У спробах рэгабілітаваньня Сталіна й сталінізму асаблівую вымову меў даклад Івана Мележа на пленуме праўленьня Саюзу пісьменьнікаў Беларусі 19 лістапада летась. Іван Мележ гэтак інтэрпрэтаваў і апраўдаў у сваім дакладзе сталінскі тэрор 30-ых гадоў:

**„Багатай вопытам, дужаю выйшла нашая літаратура на рубяжы трыццатых гадоў. На рубяжы складанага часу, сур'ёзных выпрабаваньняў.**

**Ішла індустрыялізацыя. Пачалася масавая калектывізацыя. Была складаная расстаноўка клясавых сілаў. Была рэальная пагроза з-за мяжы: блізка ад Менску, у двух дзесятках кілямэтраў, пачыналася варожая белая Польшча. Памяць трывожылі яшчэ блізкія, войстрыя ўспаміны пра нямецкую й польскую акупацыю. І ўжо рэальнымі праявамі гразіўся зь Італіі, зь Германіі фашызм . . .**

**Трыццатыя гады прынесьлі ў нашае жыцьцё й многа горкага, трагічнага. Усё гэта вядома. Але ніколі не аслабляючы значэньня змрочных зьяваў, якія былі ў трыццатыя гады, у імя справядлівасьці, праўды мы ня можам ня бачыць, што ў праўдзе тых гадоў была й іншая, сьветлая, сацыялістычная рэчаіснасьць.**

**Многае й на добрае зьмянялася ў нашых вёсках. У калгасы йшла тэхніка, ішла культура. Прамысловасьць хутка зьмяняла воблік гарадоў . . ."**

Ніяк нельга паверыць, каб гэткі таленавіты й наагул прынцыповы пісьменьнік, як Іван Мележ, які ў сваім рамане 1964-65 году „Подых навальніцы" аб'ектыўна асудзіў гэную „сьветлую, сацыялістычную рэчаіснасьць" 30-ых гадоў, у прыведзеных словах выказваў сваё шчырае перакананьне. У гэтым ягоным дакладзе цімала іншых сымптомаў, якія наводзяць на думку, што Мележаў даклад быў зрыхтаваны паводля дакладных партыйных інструкцыяў, а магчыма, быў уважна праверваны загадзя партыйнымі органамі.

Яшчэ выразьней у гэтым сэнсе ставіць пытаньне новы раман Уладзімера Карпава „Сотая маладосьць", надрукаваны ў нумарох за верасень, кастрычнік і лістапад „Полымя" леташняга году. Уладзімер Каркаў, пісьменьнік нявысокае мастацкае якасьці, быў заўсёды й дагэтуль верным выказьнікам партыйнае думкі ды із сэрвілістычнай руплівасьцяй выконваў у сваіх творах сацыяльныя заказы. Раман „Сотая маладосьць" ёсьць першай у беларускай літаратуры спробай рэгабілітаваньня сталіншчыны, а выведзены ў ім пэрсанаж былага сьледчага НКВД Караля, зь якім выразна салідарызуецца й сам аўтар, апраўдвае навет крывавую яжоўшчыну 1937 году. Ён кажа:

**„Вось нас упікаюць трыццаць сёмым. У некаторых нядаўна нават пэнсію апалавінілі. А што да яго мы мелі? Катастрофу ў Гішпаніі. Так? Мадрыд, перамогу фашыстых. І ўсё гэта таму, што там пятая калёна дзейнічала. Згодна? І, заўваж, дзе — у буржуазнай Гішпаніі! А тут вайна набліжалася. Як яе трэба было сустрэць, няўжо зь пятай калёнай? Бо калі такую калёну стварылі ў Гішпаніі, дзе гарантыя, што не пастараліся стварыць у нас, у сацыялістычнай краіне? І, вядома, давялося чысьціць. І тут праўдзе ў вочы трэба глядзець".**

Прыведзеныя словы партыйнага пісьменьніка ніякіх камэнтароў не патрабуюць.

Апошнім на сяньняшні дзень, але найбольш аўтарытэтным голасам у васуджэньні антысталінскіх перакананьняў сучасных беларускіх творчых працаўнікоў быў голас самога сакратара ЦК КПБ Станіслава Пілатовіча. У сваім дакладзе на рэспубліканскай нарадзе ідэалягічных работнікаў у студзені сёлета ў Менску Пілатовіч цьвердзіў:

**„Мы можам і павінны, разам з паказам нашых канчатковых вынікаў, раскрыць перад новымі пакаленьнямі савецкіх людзей, моладзьдзю вайстрыню клясавай барацьбы ў пэрыяд будаўніцтва сацыялізму (г. зн. у 30-ых гадох — С. С.) і небясьпеку апартуністычных плыняў. Гэта тым больш неабходна таму, што некаторыя навуковыя работнікі, навет асобныя грамадазнаўцы спрабавалі прынцыповую барацьбу партыі за чысьціню марксізму-ленінізму разглядаць як памылкі партыі, народжаныя культам асобы".**

Інакш кажучы, сталінскія пагромы 30-ых гадоў, сяньня сарамяжліва называныя нявінным словам „культ асобы", гэта не памылкі партыі, а „прынцыповая барацьба партыі за чысьціню марксізму-ленінізму".

Спробы рэгабілітаваньня Сталіна й сталінізму, ведзеныя галоўна кансэрватыўнымі коламі партыі, зьява ў Савецкім Саюзе сяньня бясспрэчная. У сувязі з гэтым ня можа ня ўзьнікаць трывожнага пытаньня: ці сьледам за ідэйным і палітычным зваротам партыі да сталінскае спадчыны з часам ня будзе й павароту да сталінскага масавага фізычнага тэрору?

Гэткія меркаваньні, на нашую думку, не абаснаваныя. Паўтарыць 30-ыя гады й крывавую яжоўшчыну партыя ўжо ня ў стане. І гэта як з прычынаў, што зайснавалі ўнутры Савецкага Саюзу, гэтак і зь меркаваньняў вонкавае палітыкі.

Гэнымі нутранымі прычынамі — згаданае вышэй карэннае духовае перараджэньне самога савецкага грамадзтва: поўнае банкроцтва ў ягоным перакананьні камуністычнае дактрыны, агульны недавер да яе, а, з другога боку, стыхійнае імкненьне гэтага грамадзтва да паўніні й паўнавартаснасьці духовага жыцьця.

Тут узноў добрым барометрам можа служыць мастацкая літаратура. Калі яшчэ сярод старэйшага пісьменьніцкага пакаленьня, што на собскай скуры перажыло сталінскія мэтады, выяўляецца сяньня свайго роду двулічнасьць: навонкі поўная партыйная ляяльнасьць, а ўнутры — супрацьлежныя гэтай ляяльнасьці перакананьні, дык сярод пісьменьніцкай моладзі няма й гэтага. Не зважаючы на партыйныя зьвінавачаньні, заклікі й накіроўваньні моладзь гэтая глухая ў дачыненьні да партыйнае дактрыны. Партыйная ідэалёгія й палітыка ёй гэтак ужо чужая, страціла для яе ўсякі жыцьцёвы сэнс, што партыя ня можа ўжо ніяк пацягнуць яе за сабой.

Моладзь гэтая жыве сяньня агульналюдзкімі й сваймі нацыянальнымі праблемамі, што ніяк не зьмяшчаюцца ў партыйнай дактрыне. Недарма сакратар ЦК КПБ Пілатовіч у згаданым сваім дакладзе быў змушаны сьцьвердзіць, што сяньня **„адна з найбольш агульных небясьпекаў тоіцца ў ажыўленьні нацыяналізму".**

Ня менш крытычная для Савецкага Саюзу й сяньняшняя міжнародная сытуацыя. Праўда, на карысьць Савецкага Саюзу сяньня несьвядома працуе блізарукая палітыка Захаду, што ўсё пакладае зманлівыя надзеі на мірнае суіснаваньне із Савецкім Саюзам і тым самым аддаляе ягоную катастрофу.

Але, з другога боку, крывавае здушваньне вызвольных імкненьняў у сатэлітных краёх моцна захістала ідэйнае адзінства й салідарнасьць міжнароднага камуністычнага руху на некарысьць Савецкага Саюзу.

Найбольшай-жа сяньня загрозай для савецкага камунізму стаўся ідэйны й палітычны канфлікт з камуністычным Кітаем, які, магчыма, прынясе яшчэ не адну неспадзеўку.

ЦК КПСС добра разумее, што практычны паварот да сталінскіх мэтадаў вельмі лёгка можа стацца для яе пачаткам канца.

**Ст. Станкевіч**

# ЗАБАСТОЎКІ НА БЕЛАРУСІ

На Беларусі расьце супраціў калгасна-хвабрычнаму прыгону, як пра гэта сьветчыць сама савецкая прапаганда й адміністрацыйныя мерапрыёмствы. Гэтак, у Гомельскай вобласці паўторна зьняты із свайго становішча сакратар Гомельскага абкому кампартыі Беларусі. У кастрычніку летась быў зьняты з пасады сакратара абкому партыі Іван Языковіч, а ў студзені сёлета зьняты й ягоны наступнік А. Каргін. Прычына зьняцьця ў вабодвых выпадках тая самая: правал сельскагаспадарскіх плянаў, як вынік супраціву калгаснага сялянства. У маскоўскай газэце „Праўда" яшчэ 27-га сьнежня летась пісалася, што вінаваты не адзін Языковіч за тое, што ў вобласьці шмат якія раёны „з году ў год ня выконваюць плянаў вытворчасьці й пастачаньня прадуктаў жывёлагадоўлі". „Праўда" тады-ж зьвінаваціла за гэта й міністра сельскае гаспадаркі БССР С. Скарапанава.

Супраціў маскоўска-камуністычнай эксплятацыі працоўнае сілы й эканамічных рэсурсаў Беларусі не абмежаваны аднак да Гомельскае вобласьці ці да сельскае гаспадаркі. Як паведаміла Менскае радыё 31 студзеня сёлета, на праведзеным пленуме Магілеўскага абкому партыі разглядаліся тыя самыя цяжкасьці, што й у Гомельскай вобласьці. „Галоўную ўвагу ўдзельнікі пленуму, — сьцьвярджала радыё, — сканцэнтравалі на недахопах у разьвіцьці жывёлагадоўлі й шляхох выпраўленьня гэтых недахопаў".

Цівун партыйнае прапаганды газэта „Зьвязда" ў сваёй перадавіцы за 1 лютага сёлета — „Дысцыпліна працы" — б'е таксама трывогу, што справы дрэнь з дысцыплінай працы ў прамысловасьці Беларусі, у якой штораз шырэй ужываецца форма байкоту спосабам запавальненьня працы або проста няпрыходу на работу (У Амэрыцы гэтая форма байкоту ўжываецца шырака й ведамая пад назвай „гоў-слёў страйк" і „абсэнтэізм"). Вось што піша „Зьвязда" ў сваёй перадавіцы:

„Партыйныя арганізацыі многіх заводаў, хвабрык, будоўляў, калгасаў і саўгасаў вядуць вялікую работу па ўмацаваньню працоўнае дысцыпліны. Яны стараюцца, каб ніводнае яе парушэньне не засталося незаўважаным, каб для прагульшчыкаў, бракаробаў была створаная нецярпімая абстаноўка, каб супраць іх нацэльвалася грамадзкая думка ўсяго калектыву".

Грамадзкая думка, аднак, нацэленая не на прагульшчыкаў, а на эксплятататараў. І гэта змушае „Зьвязду" наракаць: „Нажаль, яшчэ шмат у якіх калектывах працоўная дысцыпліна на нізкім узроўні. Безадказныя адносіны да свае справы, частыя прагулы, спазьненьні на работу, вялікія страты працоўнага рабочага часу зьніжаюць прадукцыйнасьць працы, адмоўна ўплываюць на выкананьне дзяржаўных плянаў".

Да якіх канкрэтна памераў даходзіць байкот патагоннае камуністычнае сыстэмы, паказвае наступны прыклад з тае-ж „Зьвязды":

„У апошні час зьнізілася дысцыпліна на „Гомсельмашы". Толькі летась тут зрабілі прагулы каля тысячы чалавек. Дайшло да таго, што навет самі майстры прагульваюць. Як-жа тут змагаюцца з парушальнікамі? Ды ўсё тымі-ж адміністрацыйнымі мэтадамі. Летась, напрыклад, за прагулы звольнена 179 чалавек, а на таварыскіх судох разгледжана менш як 10 працэнтаў парушэньняў . . .

„Асаблівай увагі патрабуе моладзь. Як сьветчыць практыка, парушальнікамі дысцыпліны пераважна зьяўляюцца маладыя работнікі".

Вось як працоўныя паняволенае Масквой Беларусі, асабліва беларуская моладзь, сустракаюць соты юбілей нараджэньня ідэалёга гэтага паняволеньня — Леніна.

**А. Будзіч**

## 9-АЯ СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ

Галоўная Управа БАЗА правяла 5 і 14 лютага два пашыраныя паседжаньні ў справе рыхтаваньня й правядзеньня 9-ай традыцыйнай Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі. На паседжаньнях гэтых быў абмеркаваны плян Сустрэчы ды прынятыя наступныя пастановы: Сустрэча адбудзецца ў самым горадзе Нью Ёрку 5, 6 і 7 верасьня сёлета (на Лейбар-Дэй) і сваім ідэйна-палітычным аспэктам будзе прысьвечаная тэме — **Беларусь у змаганьні.** Разьвіваючы ў афіцыйнай частцы Сустрэчы гэтую тэму, будзе насьветлены сучасны беларускі нацыяналізм у ягоным супраціве ўзмоцненай сяньня савецкім рэжымам акцыі русыфікацыі, палітычнага паняволеньня й каляніяльнае эксплятацыі Беларусі.

Сустрэча склікаецца супольна Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем і Згуртаваньнем Беларусаў Канады.

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011



# 20-Ы АГУЛЬНЫ ЗЬЕЗД ЗБК

31-га студзеня 1970 г. у Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Таронта старшыня ўступаючай Галоўнай Управы ЗБК сп. М. Ганько прывітаньнем і агульна адсьпяванай малітвай „Беларусь наша Маці Краіна" адчыніў 20-ты Агульны Зьезд Сяброў і Дэлегатаў Згуртаваньня Беларусаў Канады.

Лістоўныя прывітаньні ад Старшыні Рэдакцыйнай Калегіі газэты „Беларус" д-ра Станіслава Станкевіча, ад Старшыні Галоўнай Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня інж. Вячаслава Станкевіча, ад Старшыні Акругі БАЗА ў Нью Ёрку сп. Міхася Тулейкі, ды асабістыя Старшыні Парахвіяльнае Рады БАПЦ Сьв. К. Тураўскага ў Таронта сп. Уладзімера Целеша сваёй шчырасьцю пажаданьняў посьпехаў у працы далі Сходу духовую падтрымку й пачуцьцё, што ў чужым моры мы не адны, што ёсьць і іншыя беларускія арганізацыі, якія робяць такія-ж намаганьні й імкнуцца да тае-ж, што й мы, мэты. І мы ўсім тым, хто ў важныя часіны жыцьця ЗБК не забыў нас ды перадаў добрыя словы пажаданьняў, шчыра ўдзячныя.

Мандатная Камісія ў складзе старшыні — маг. А. Грыцука, сакратара — д-ра Я. Садоўскага й сябры — сп. В. Касьцюкевіча праверыла мандаты й абвесьціла Сход правамоцным. Яна й правяла выбары Прэзыдыюму Сходу, у які ўвайшлі: Старшыня — д-р Б. Рагуля й сакратар маг. А. Грыцук.

Із справаздачаў Аддзелаў ЗБК Таронта, Садбуры й Лёндану, Сяброў і Старшыні Галоўнай Управы ды Нагляднае Рады выявілася, што пэрыяд 19-ае кадэнцыі, ад 22 чэрвеня 1968 г. да 31 студзеня 1970 г., быў важным і цікавым.

1968 год быў юбілейным годам БНР, годам 8-ае Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, годам прысьвечаным правом чалавека й 20-цігодзьдзем заснаваньня першае ў Канадзе беларускае нацыянальнае арганізацыі — Згуртаваньня Беларусаў Канады.

1969 год адзначаў 15-я ўгодкі заснаванае стараньнем ЗБК першае ў Канадзе парахвіі БАПЦ Сьв. К. Тураўскага ў Таронта. У 1969 годзе выкупленая была гіпатэка на будынку Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру ў Таронта, суўласьнікам якога зьяўляецца ЗБК. У гэным годзе была аформленая купля першага ў Канадзе беларускага адпачынковага Цэнтру „Слуцак" зь яго царкоўна-грамадзкай дзялянкай.

На працягу 19-ае кадэнцыі БР-ГЦ у Таронта гасьціў такіх выдатных асоб, як паэтка Натальля Арсеньнева-Кушаль і старшыня БІНіМ у Нью Ёрку д-р Вітаўт Тумаш. Першы раз у нашым Цэнтры была наладжаная выстаўка малярскага мастацтва Галіны Русак.

І дзеля таго, што пэрыяд часу быў важны, ён вымагаў ад Галоўнае Управы ЗБК большых высілкаў і працы, а таму, што яны былі зробленыя — час быў і цікавы.

Праца 19-ае Галоўнае Управы ЗБК, накіраваная ідэялягічна ў напрамку змаганьня за жыцьцё й чалавечыя правы беларускага народу, мела некалькі аспэктаў. Імі былі:

1. Культурна-асьветная й нацыянальна-ўзгадавальная праца сярод беларускага грамадзтва Канады.

2. Прапагаваньне ў вольным сьвеце імя й імкненьняў беларускага народу да дзяржаўнай незалежнасьці.

3. Падтрымоўваньне БАПЦ, як педарумовы, безь якой ня можа быць і дзяржаўнай сувэрэннасьці.

4. Умацаваньне нутранай арганізацыі, як перадумовы, безь якой ня можа быць і эфэктыўнай працы.

5. Будаваньне матар'яльнай базы, як асновы для нашай працы.

Гэтыя аспэкты працы зазубліваюцца й цесна між сабой вяжуцца.

ЗБК верыць у супрацоўніцтва з усімі беларускімі арганізацыямі, што стаяць на груньце 25 Сакавіка, і таму ёсьць сябром Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады, праз які праца нацыянальна-ўзгадавальная сярод сваіх і палітычна-прапагандовая між чужых можа быць куды болей эфэктыўнай. Як дагэтуль у Канадзе, дзякуючы дзейнасьці ККБК, толькі найвялікшае нацыянальнае сьвята 25 Сакавіка адзначаецца ўсімі беларускімі арганізацыямі супольна. Іншыя нацыянальныя гадавіны, як Дзень Герояў Беларусі, Дзень Прадславы — Еўфрасіньні Полацкай, 50-я ўгодкі сьмерці Івана Луцкевіча й 30-я ўгодкі сьмерці Антона Луцкевіча, ЗБК адзначала асобна.

Хоць пад фірмай ЗБЖК і БІНіМ у Канадзе, але сябрамі Галоўнае Управы ЗБК, наладжаны быў вечар паэзіі Натальлі Арсеньневай, даклад д-ра Вітаўта Тумаша — „Гэтман Рыгор Хадкевіч, як ідэйны пасьлядоўнік д-ра Франьцішка Скарыны (да 400-х угодкаў друкарні ў Заблудаве)", даклады аб Канстанцыі Буйле й Камільлі Марцінкевічанцы — д-ра Раісы Жук-Грышкевіч, і даклад „Мастак і асяродзьдзе" маг. Галіны Русак.

За кадэнцыю наладжана было пяць выставак. 1. Найбагацейшая матар'ялам і найпрыгажэй аформленая выстаўка ладжаная 16 лістапада 1968 г. на сьвяткаваньне 20-тых угодкаў ЗБК давала абраз жыцьця, працы й дасягненьняў ЗБК за 20 год (глядзі „Беларус" № 140).

2. Другая вялікая выстаўка наладжаная ў канцы верасьня 1969 г. на 15-я ўгодкі БАПЦ у Канадзе адлюстроўвала падзеі з жыцьця БАПЦ ня толькі у Таронта ці Канадзе, але й у ЗША ды Аўстраліі.

3. Каштоўнымі з акадэмычнага пункту гледжаньня экспанатамі адзначалася выстаўка да вышэй успомненага дакладу д-ра В. Тумаша.

4. Наглядную ілюстрацыю да дакладу д-ра Вінцэнта Жук-Грышкевіча аб жыцьці й нацыянальна-палітычнай дзейнасьці Івана й Антона Луцкевічаў тварыла выстаўка ладжаная на Акадэмію памяці гэтых найвялікшых дзеячоў беларускага адраджэньня.

5. Іншы характар мела выстаўка абразоў Галіны Русак, спалучаная з дакладам „Мастак і асяродзьдзе".

„Пакажы мне сваю хату, а я даведаюся, хто ты" — кажа прыказка. Раз наведала наш БР-ГЦ група турыстых — удзельнікаў танцавальнага ансамблю — з СССР. Адзін зь іх кінуў рэпліку: „Вы не прападзеце, як кажа ваш Багушэвіч". Іншыя гаварылі, што яны знаёмыя з творамі Купалы, Коласа, ведаюць аб Скарыне.

Галоўная Управа ЗБК надае афармленьню свае „хаты" нацыянальна - ўзгадавальнае значаньне. Да калекцыі патрэтаў нашых слаўных продкаў, за апошнюю кадэнцыю, дайшлі патрэты Івана й Антона Луцкевічаў, выдадзены ў Нью Ёрку (Паблік Ляйбрэры) дрэварытны патрэт Скарыны, загаловачная бачына яго Біблії й загаловачная бачына Літоўскага (Беларускага) Статуту.

У галіне нацыянальна-палітычнай — падаваньня перад сьветам свайго голасу — найважнейшым, што зрабіла ЗБК, гэта Рэзалюцыя ад 19-га Зьезду ЗБК сьціраваная да Задзіночаных Нацыяў, што дамагалася чалавечых правоў для беларускага народу на Бацькаўшчыне, паняволенага й сыстэматычна вынішчанага расейскім каляніялізмам у форме камунізму. Рэзалюцыя была выслана Генэральнаму Сакратару ЗН У Тану, Прэм'еру Канады П'еру Трудо й шасьцідзесяцём Дэлегацыям Задзіночаных Нацыяў.

ЗБК сьведамае ў сваіх незалежніцкіх імкненьнях ня толькі падтрымлівае сваю БАПЦ, але й лічыць сваім абавязкам сьцерагчы й бараніць яе, як факту здабытае ўжо духовае незалежнасьці. Галоўная Управа ЗБК рупіцца пра гарманійнае супрацоўніцтва з Парахвіяльнай Радай БАПЦ у Таронта. Наглядным прыкладам гэтага было сьвяткаваньне 15-цігодзьдзя Парахвіі БАПЦ, а фактычным прыкладам набыцьцё супольнай собскасьці — будынку БР-ГЦ. Другім прыкладам цеснага сужыцьця ЗБК й Парахвіі ёсьць факт, што сябры ЗБК, якія ёсьць і собсьнікамі „Слуцку", даравалі, як складчыну із сваіх удзелаў, для БАПЦ вялікую дзялянку. Супрацоўніцтва адбіваецца ў дзейнасьці ды самым існаваньні, заснаванай стараньнем ЗБК у 1952 годзе Беларускай Крэдытовай Касы ў Таронта, якая па сяньня праспэруе, абслугоўваючы нашыя арганізацыі й іх сяброў. І так нацыянальная, рэлігійная й гаспадарская арганізацыі, зьнітаваньня міжсобку, адна другую ўспамагаюць. ЗБК за апошні год прыдбала сабе чатырох новых сяброў.

Пасьля дыскусіяў над справаздачамі, Сход прызнаў уступаючай Галоўнай Управе абсалютэрыюм зь „вялікай, вялікай" падзякай.

Да найважнейшых пунктаў прынятага Зьездам пляну працы на будучыню належылі: справа моладзі, прэсы, нацыянальна-асьветнай працы, вонкавых дачыненьняў, справы нутранай арганізацыі.

Агульны Зьезд ЗБК выслаў прывітальны ліст Прэзыдэнту Рады БНР інж. Міколу Абрамчыку.

У выніку выбараў у новую Галоўную Управу бальшынёй галасоў увайшлі: Старшыня — маг. А. Грыцук, заступнік старшыні — сп. В. Касьцюкевіч, сакратар — д-р Р. Жук-Грышкевіч, скарбнік — сп. М. Ганько, рэфэрэнт вонкавых дачыненьняў — сп. К. Акула. У Наглядную Раду ўвайшлі: сп. сп. Я. Чорны, Я. Баран і Б. Кірка. У Сяброўскі Суд — сп. А. Протас, сп-ня О. Грыцук і сп-ня Л. Рагуля.

Зьезд закочыў сваю працу адсьпяваньнем Нацыянальнага Гімну.

**Р. Жук-Грышкевіч**

## ВЫСЬВЯЧЭНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДЗКАГА ДОМУ Й АДЧЫНЕНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА КЛЮБУ „САКАВІК" У БРАДФАРДЗЕ

У жыцьці Беларускае калёніі гораду Брадфард ды й усяе Ангельшчыны адбылася важная грамадзкая падзея.

20 сьнежня летась настаяцель БАПЦарквы ў Вялікай Брытаніі а. Янка Абабурка выканаў абрад высьвячэньня новакупленага Беларускага Грамадзкага Дому ў Брадфардзе.

Пасьля высьвячэньня таго-ж дня быў фармальна адчынены Бар „Крыніца" ў тым-жа Доме прадстаўніком Дырэкцыі Браварні „Тэтлэй" сп. Мэк-Брэды.

У сыботу 17 студзеня сёлета пры шматлюдным удзеле беларускіх і ангельскіх гасьцей і афіцыйных прадстаўнікоў ангельскага грамадзтва й самаўраду гораду Брадфард, прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў зь Лёндану й іншых гарадоў Ангельшчыны, а таксама іншанацыянальных арганізацыяў быў афіцыйна адчынены Лёрдам Мэрам Брадфарду Алдэрманам Эдвардам Ньюбэй Беларускі Грамадзкі Клюб „САКАВІК" у Брадфардзе.

Падробная справаздача з гэтых урачыстасьцяў будзе надрукаваная ў наступным нумары нашае газэты.

## СХОД СЯБРОЎ БАЗА У НЬЮ ЁРКУ

Управа Ньюёркаўскага Акруговага Аддзелу БАЗА ў нядзелю 15 лютага склікала Агульны Сход сваіх сяброў, прысьвечаны як агульнай актывізацыі дзейнасьці арганізацыі, гэтак і выкананьню найбліжэйшых канкрэтных заданьняў, галоўна — падрыхтаваньню й правядзеньню супольна з Галоўнай Управай ды ўправамі Аддзелаў у Нью Джэрзі й Лёнг Айлэнд урачыстага сьвяткаваньня 52-іх угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, а так-жа дапамогі Галоўнай Управе БАЗА ў рыхтаваньні й правядзеньні 9-ай Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, што адбудзецца ў пачатку верасьня ў Нью Ёрку.

Сход адбыўся за сталамі пры каве й сьціплай закусцы. Пасьля малітвы прысутнага на Сходзе Уладыкі Васіля, Сход адчыніў старшыня Управы Ньюёркаўскага Акруговага Аддзелу БАЗА сп. Міхась Тулейка вельмі актуальным зваротам да сяброў і заклікам узмоцніць свой удзел у дзейнасьці Аддзелу. Тады сябра Управы сп. Міхась Міцкевіч падробна паінфармаваў пра праведзеную ўжо цяперашняй Управай грамадзкую дзейнасьць, а культурны рэфэрэнт Управы сп. Антон Шукелайць зрабіў справаздачу з культурна-асьветнай дзейнасьці Аддзелу. Прысутныя сябры выказалі належную руплівасьць справамі свае арганізацыі ды абмяняліся думкамі пра большую актывізацыю ейнае дзейнасьці.

У сувязі з тым, што склад Управы Аддзелу аказаўся з розных прычынаў сяньня здэкамплектаваным, а ейныя заданьні ня толькі ня зьменшыліся, а й павялічыліся, пастаноўлена было дакааптаваць у Управу Аддзелу сп-чну Галіну Орсу й Пётру Манькоўскага ды зь няпрысутных на Сходзе, спадзяючыся на іхную згоду, сп. Гіпаліта Паланевіча й сп. Міколу Кунцэвіча.

Прысутны на Сходзе рэдактар газэты „Беларус" д-р Станіслаў Станкевіч паінфармаваў пра дзейнасьць як Рэдакцыйнае Калегіі „Беларуса", гэтак і прадстаўнікоў ды супрацоўнікоў газэты у іншых асяродзьдзях ЗША, а таксама ў беларускіх асяродзьдзях у іншых краёх Вольнага Сьвету. Ён сьцьвердзіў, што газэта „Беларус" ня толькі фармальна, а й фактычна сталася органам і здабыткам усяе беларускае эміграцыі. У сувязі з гэтым усе беларускія асяродзьдзі як у ЗША, гэтак і ў Канадзе, Ангельшчыне, Аўстраліі й іншых краёх актыўна супрацоўнічаюць з газэтай, пашыраюць яе і ўтрымліваюць фінансава.

Не зважаючы на тое, што шмат якія сябры былі няпрысутныя галоўна з прычыны дрэннага надвор'я, Сход прайшоў на высокім грамадзкім узроўні й выявіў шчырую руплівасьць прысутных справай свае арганізацыі й заплянаваных ёю мерапрыёмстваў.

# НАШТО БЛЫТАЦЬ МСЬЦІСЛАЎЛЬ І СУЗДАЛЬ

Як сэрэбраная падкова, скутая стромкімі берагамі, агінае Мсьціслаўль дачка Сожу прыгажуня Вехра, нібы абараняючы горад з усходу. На гэтых берагох вядомых пад назовамі гораў — Замкавае, Дзявочае, Траецкае, Могілкавае, Манастырскае — абы-дзе захаваліся рэшткі колішніх вайсковых умацаваньняў. А з боку заходняга затульвае яго даўгі ды глыбокі Цялячы роў. Не дарма пра князя Мсьціслава Раманавіча, ад якога, паводля прыпушчэньняў, ён атрымаў сваё ймя, захавалася прыказка — Мсьціслаў не аднаго сьціснуў. Ня выпадкова на гэрбе гораду, дараваным яму ў 1634-м годзе, быў меч, а пад ім шчыт. І хай сабе назоў чароўнае Дзявочае гары паходзіць, як сьцьвярджаюць гісторыкі, ад грознага радзіміцкага бога Дзіва, на думку тубыльцаў, ён паўстаў ад тутэйшых дзяўчатаў, якія перад варожым нападам за адну ноч нацягалі сюды ў сваіх хвартушкох зямлі.

Але хоць Мсьціслаўль, зьяўляючыся некалі сталіцай удзельнага княства, заснаванага князем Лугвеніем-Сымонам Альгердзічам, займаў вялікі абшар ад Цялячага рову да Вехры, хоць адсюль паходзяць і бліжэйшы спадкаемца Франьцішка Скарыны Пётра Мсьціславец і скульптар Сьцяпан Палубес, творы якога аздоблівалі Крамлёўскія харомы, не спрабуйце шукаць тут манумэнтальных сьветкаў ягонае гісторыі і культуры — архітэктурных помнікаў. Таму мімаволі зьдзіўляе, што горад улучаны цяпер у турыстычны маршрут, бо бадай нічога зь ягонае старадаўніны ў ім не засталося.

Яшчэ залетась у газэце „Літаратура і Мастацтва" за 17-га верасьня зьявіўся артыкул П. Місько з паэтычным загалоўкам „Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі..." Аўтар пачынае яго падзагалоўкам „Ці быць Беларускаму Суздалю?" і далей пераходзіць да намеру ператварыць сучасны Мсьціслаўль у горад-музэй. І справа тут навет ня ў тым, што, як слушна адзначае гэрой апавяданьня Ўладзімера Кудзінава „Грэнадзёр цяжкое артылерыі", зьмешчанага, ў „Полымі" за леташні кастрычнік: „Сорак год на народныя ахвяраваньні будавалі ў Маскве храм Хрыста-Збавіцеля, як помнік перамогі над Напалеонам. Зламалі. Цяпер схамянуліся, пачалі рэстаўраваць Растоў, Суздаль, Салаўкі, але ці гэта зьменіць што". Справа таксама не ў даволі плыткім параўнаньні Мсьціслаўля із Суздалем, бо кажны зь іх мае сваё апрычонае нацыянальнае аблічча. А справа палягае пераважна ў тым, што ўсё-ж у Суздалю захавалася больш за пяцьдзесят архітэктурных помнікаў, а ў Мсьціслаўлі бяз малага ніводнага.

Калісьці цэнтр Мсьціслаўля ўпрыгожваў велічны Мікалаеўскі сабор, пабудаваны ў пачатку 18-га стагодзьдзя. Асаблівую каштоўнасьць уяўляў зь сябе ягоны разьбяны іканастас, створаны сынамі тых славутых тутэйшых разьбяроў, што ў саборы Маскоўскага Новадзявочага манастыра зрабілі цудоўны іканастас, у якім адбілася слынная „беларуская рэзь". У пачатку 20-х гадоў у Мікалаеўскім саборы зьнішчылі барокавыя званіцы, потым перарабілі ягоную цэнтральную частку пад кінатэатр, а зь дзьвюх барокавых прыбудоваў адну скарысталі пад турму НКВД, другую — пад школу глуханямых. І тады-ж без адкладу парэзалі на дровы іканастас, разьба якога нагадвала карункі.

Здаўна надавала прывабны выгляд Падолу адна з найстарэйшых у горадзе Падольская царква. Сьціплая паводля свайго памеру, яна вабіла дасканаласьцю сваіх паасобных прапорцыяў, а таксама іканастасам. І гэты выдатны архітэктурны помнік скарысталі пад млын з ваўначоскай, зьнішчыўшы адначасна ягоны іканастас. Цікавую Траецкую або Пятніцкую царкву на Траецкай гары прыстасавалі пад рэстаран № 1 Харчпромгандлю. Падобны лёс пасягнуў на Манастырскай гары Тупічэўскі манастыр, пабудаваны каля 1616-га году К. Маскевічам У ягоным саборы знаходзіўся цудадзейны абраз Тупічэўскае або Сямігароднае Богамаці. Спачатку манастыр ужылі пад дзіцячы прытулак, потым пад маслазавод. А цяпер ад ранейшага ансамблю засталіся толькі частка вежы, кавалак муру ды рэшткі склепаў. І зьнікнуў у невядомасьці стары, высокамастацкага пісьма сьвяты абраз.

У жалюгодным становішчы знаходзіцца на Слабодзкай вуліцы Александра-Неўская царква, пабудаваная ў 17-м стагодзьдзі Мсьціслаўскім Брацтвам. Між тым, зірнуўшы на яе звонку адразу прыгадваецца вядомы закон беларускіх дойлідаў: „Рубіць вышынёй, як мера і прыгажосьць скажуць". Але найбольш цікавы ейны інтэр'ер, аздоблены разьбой па камені й дрэве, упрыгожаны рознакаляровай кафляй. Яшчэ ў 20-х гадох царкву скарысталі пад збожжасховішча, за часы вайны мсьціслаўцы аднавілі ў ёй Божую Службу, а па вайне яе зноў апанавалі раённыя нарыхтоўшчыкі.

Аднак з усіх мясцовых архітэктурных помнікаў найбольшую каштоўнасьць уяўляе старадаўні касьцёл, у якім месьціцца цяпер склад харчгандлю. Асаблівую каштоўнасьць мелі ў ім фрэскі 17-га стагодзьдзя, шырака вядомыя па рэпрадукцыях у шматлікіх выданьнях. Хоць і былі адпушчаныя сродкі на ягоны рамонт, але іх скарысталі на іншыя мэты. У выснаве летась увясну абвалілася тут столь і частка даху. „А дзе-ж знакамітыя фрэскі?" — зьдзіўляецца трапіўшы ў касьцёл кагадзе прыгаданы П. Місько і пераконваецца — Ад „Штурму Мсьціслаўля" засталося толькі некалькі ледзь прыкметных фігур па бакох кампазыцыі. „Ад другой, пазьнейшай фрэскі, якая быццам-бы паказвала расправу пераможцаў над пераможанымі, уцалела толькі невялічкая частка, астатняе ўпала разам з атынкоўкай. Аднавіць іх можна, бадай, толькі пішучы занава, па фотаздымках".

І дазвольце цяпер паставіць кропку над і, што па добра зразумелых нам прычынах П. Місько ня ў стане зрабіць. Ну навошта ўжываць гэткі дыпляматычны выраз — быццам-бы — да гістарычнае падзеі, вядомае калісьці ўсім школьнікам? Зьніклая фрэска была прысьвечаная „Трубяцкой разьні" 1654-га году, пасьля якое цар Аляксей Міхайлавіч прысабечыў сабе дадатковы тытул князя Мсьціслаўскага, а тыя адзінкі з мсьціслаўцаў, што дзівам ацалелі ад ягоных стральцоў, атрымалі мянушку — „недасекаў". Натуральна, што паказваць у БССР турыстым фрэску, якая зьяўлаецца дакумантальным абвінавальным актам супраць Масквы, забаронена. А таму немесьнік старшыні Рэспубліканскага таварыства аховы помнікаў Барысевіч спачатку, як сьцьвярджаюць 16 абураных навукоўцаў у сваім артыкуле „Аўтографы ... на фрэсках", апублікаваным у „Чырвонай зьмене" за 18-га летяшняга кастрычніка, наагул даў дазвол на разбурэньне ўсяго касьцёлу. Бо тое, што можна Суздалю, тое, відаць, не даравальна для Мсьціслаўля. Дарэчы, ведаючь мсьцілсаўцы тую страшэнную начную дарогу, якая вядзе ад турмы НКВД у паруганым Мікалаеўскім саборы на Першамайскай плошчы да набраклага крывёю рову, што за бальніцай у канцы Ленінскае вуліцы. Дык дзеля чаго блытаць зусім розныя шмат у якіх дачыненьнях гарады?

**Юрка Віцьбіч**

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

